РАЁННАЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ

№ 65 (7878) Заснавана ў красавіку 1931 года Серада, 23 жніўня 2000 г. Цана 25 руб.

УРАДЖАЙ-2000

## На палях-- збожжавыя сеялкі

**Жніво ў раёне набліжаецца да завяршэння. Хутка дажынкі будуць у тых гаспадарках, дзе ўборка ўраджаю вядзецца арганізавана, добрымі тэмпамі. Перш за ўсё гэта калгасы "Прагрэс", "Дуброва", "Парыжская камуна, "Радзіма".**

Аднак у цэлым жніўных праблем яшчэ нямала. Не выпадкова ўборачная тэма працягвае знаходзіцца ў цэнтры ўвагі кіраўніцтва раёна. Так, 19 жніўня гэта пытанне разглядалася раніцай з адпаведнымі кадрамі на пасяджэнні раённага штаба, а потым, у той жа дзень, на аператыўнай нарадзе у райвыканкаме, куды былі запрошаны старшыні калгасаў, кіраўнікі раённых служб, райсельгасхарчу.

Кожны з старшынь калгасаў далажыў, што зроблена ўжо і яшчэ прадстаіць зрабіць на збожжавай ніве. Заслуханы таксама іх справаздачы аб выніках уборкі кукурузы, нарыхтоўкі кармоў. Былі названы меры па яе далейшаму правядзенню.

Вёў нараду старшыня раённага выканаўчага камітэта Міхаіл Барысаў. Як адзначалася, у апошні час тэмпы ўборкі збожжавых культур знізіліся. Меншымі сталі намалоты зерня. Прычыны зразумелыя: нярэдка выходзіць са строю ўборачная тэхніка. Акрамя таго, плошчы, занятыя яравымі збожжавымі, вельмі засмечаны пустазеллем, што ўскладняе абмалот. Шмат застаецца зерня ў саломе. Таму павінен быць узмоцнены кантроль за работай тэхнікі, наладжана яе правільнае выкарыстанне і абслугоўванне.

У шэрагу гаспадарак значна адсталі з уборкай збажыны. Каб яе закончыць, спатрэбіцца час. А значыць могуць быць вялікія страты зерня. З мэтай папярэджвання негатыўных вынікаў было вырашана аказаць дапамогу калгасам імя Калініна, "Бароны", "Праўда". Сюды прыйдуць камбайны з тых гаспадарак, дзе ўборка завяршаецца. Неабходна "падцягнуцца" і некаторым іншым калгасам, у якіх яшчэ не ўбраны ўраджай са значных плошчаў. Гэта датычыць, у прыватнасці, калгаса імя Карла Маркса, які, па словах яго старшыні, справіцца сам.

На нарадзе аналізаваўся ход нарыхтоўкі збожжа. Пакуль яшчэ не выкананы план продажу яго дзяржаве па культурах. Да таго ж, калгасам неабходна рэалізоўваць зерне і разлічвацца з пастаўшчыкамі паліва, усяго іншага.

Выказана незадаволенасць ходам уборкі кукурузы, нарыхтоўкі сіласу. Патрабавана больш адказнасці і аператыўнасці з боку начальнікаў механізаваных атрадаў, кіраўнікоў ПМК-90, ПМС, ААТ райсельгасхіміі і райаграпрамтэхэнерга. Менавіта яны павінны ўзяць на сябе асноўны цяжар клопатаў аб сіласаванні кукурузы, паколькі ўвага калектываў калгасаў скіравана на заканчэнне ўборкі збожжа, правядзенне сяўбы азімых культур.

Якраз пытанні, звязаныя з арганізацыяй пасяўной, абмяркоўваліся з кіруючымі кадрамі найбольш падрабязна на нарадзе і праведзеным 19 жніўня спецыяльным раённым семінары, а таксама 21 числа на чарговым пасяджэнні раённага штаба. М. Р. Барысаў, звяртаючыся да прысутных, заўважыў, што ў гэты час летась па раёну было засеяна азімымі культурамі ўжо звыш 500 гектараў. Сёлета паказчык больш сціплы. Відаць, кіраўнікі і спецыялісты не спяшаюцца. Маўляў, час яшчэ ёсць. Але гэта пазіцыя памылковая. Папершае, пасеяныя раней азімыя далі сёлета лепшы ўраджай. І наадварот. Таму не варта чагосьці чакаць. Лепш канкрэтней весці падрыхтоўку плошчаў і непасрэдна сяўбу.

Начальнік райсельгасхарчу Віталь Грышанаў выказаў ідэю пашырыць сёлета азімае поле пад ураджай будучага года на 25 працэнтаў у параўнанні з тым, якое было ў гэтым годзе. Яна была падтрымана ў райвыканкаме. Азімыя культуры ўжо неаднаразова "даказвалі" сваю перавагу перад яравымі. За кошт іх зараз і забяспечаны ў асноўным валавы збор збожжа. Ячмень і авёс, як правіла, даюць меншы ўраджай.

Каб дасягнуць пастаўленай мэты, трэба яшчэ папрацаваць па падрыхтоўцы дадатковай колькасці насеннага матэрыялу. Асноўны ж насенны фонд створаны ў калгасах.

Сёння надзвычай важна ўзмацніць тэмпы ворыва глебы. Яно павінна закончыцца да 1 верасня, а ў большасці калгасаў не ўкладваюцца ў распрацаваны графік. У сувязі з гэтым калгасы павінны накіраваць на ворыва дастатковую колькасць агрэгатаў. Некаторым не абысціся без дапамогі шэфствуючых арганізацый, і яе трэба аказаць.

Не дапускаецца сяўба па няўгноенай глебе. Таму калгасы абавязаны ўносіць арганічныя і мінеральныя ўгнаенні. Варта паклапаціцца аб ачышчэнні палёў ад пустазелля, асабліва пырніку. Патрабавана прымяніць хімічны сродак – раундап, іншыя гербіцыды пад азімыя.

Раённы семінар прайшоў на базе калгасаў "Дуброва", "Новае жыццё". Удзельнікі яго пахвалілі кіраўнікоў і спецыялістаў, механізатараў калгаса "Дуброва", а таксама адказных асоб раёна, што замацаваны за гаспадаркай участак плошчай 40 гектараў быў падрыхтаваны добра. Вопытны трактарыст Сяргей Дыліка з дапамогай сеялкі СПУ-6 засеяў у першы дзень 20 гектараў. На перадпасяўной апрацоўцы глебы пастараўся механізатар Віктар Хрушчанка.

Зрабіў спробу ўключыцца ў сяўбу калгас "Новае жыццё". Аднак падрыхтоўка глебы не атрымала высокай афіцыйнай ацэнкі. Узніклі некаторыя няўвязкі, няспраўнасць тэхнікі. За нездавальняючую арганізацыю сяўбы намеснік начальніка райсельгасхарчу па раслінаводству Ігар Гулакоў пакараны.

У той дзень сеялі азімыя і ў калгасе "Расія". Па стану ж на 22 жніўня разгарнулі азімую сяўбу ў большасці калгасаў. У добры шлях, будучы ўраджай!

На пасяджэнні раённага штаба абмяркоўваліся пытанні падрыхтоўкі ферм да зімы, закупу малака ў насельніцтва, падтрымання парадку ў вёсках і горадзе.

## ДОШКА ГОНАРУ

**На ўборцы збожжавых лепшых вынікаў па стану на 21 жніўня дабіваюцца:**

Экіпаж у складзе **ГРАКАВЫХ Сяргея Аляксандравіча і Уладзіміра Аляксандравіча** з калгаса "Парыжская камуна", які намалаціў з пачатку ўборкі 619 тон.

На другім месцы экіпаж з калгаса "Дуброва" у складзе **БАЛДУЕВА Вячаслава Віктаравіча і АРЛОВА Віктара Міхайлавіча**, які намалаціў 542 тоны.

494 тоны намалочанага збожжа на рахунку экіпажа **ЛАХЦІКАВА Пятра Аляксандравіча і МЯКЕНЬКАГА Аляксандра Пятровіча** з калгаса "Парыжская камуна".

**На перавозцы збожжа вызначаюцца:**

**БОНДАРАЎ Эдуард Мікалаевіч** з калгаса "Прагрэс", які на аўтамашыне МАЗ перавёз з пачатку ўборкі 777 тон.

**ПАРШЫКАЎ Мікалай Сцяпанавіч** з калгаса "Радзіма" на аўтамашыне "ЗІЛ-130" перавёз 615 тон.

**ПАТАПЕНКА Віталь Іванавіч** з калгаса "Дуброва" на аўтамашыне "ГАЗ-53" перавёз 600 тон зерня.

**На перапрацоўцы зерня лепшы вынік:**

у **Міхайлава Аляксандра Васільевіча** з калгаса "Парыжская камуна", які на КЗС-20 перапрацаваў 1100 тон.

950 тон перапрацаванага зерня на сушылцы М-819 у **ЛЯОНАВА Івана Васільевіча** з калгаса "Дуброва".



Іван Васільевіч Ляонаў з калгаса "Дуброва" у гарачы час уборкі ўраджаю заняты абслугоўваннем сушылкі М-819. Увагі, стараннасці і клопату патрабуе гэты адказны ўчастак у ланцугу сельскагаспадарчых спраў: поле – засек. Праз агрэгат, якім кіруе Іван Васільевіч, прайшло 1100 тон зерня. Гэта ён давёў кожнае зярнятка да патрэбнай вільготнасці, каб яно дало або добрыя ўсходы на полі, або захавалася да вясны добрай якасці.

**На здымку: І. В. ЛЯОНАЎ.**

## Звесткі

**аб уборцы збожжавых у калгасах раёна па стану на 21 жніўня г.г.**

**Першая калонка – назвы гаспадарак, другая – убрана збожжавых (у працэнтах да плана), трэцяя – ураджайнасць (цнт. /га)**

| | | |
|---|---|---|
| "Дуброва" | 97,5 | 25,0 |
| "Прагрэс" | 91,3 | 19,7 |
| "Радзіма" | 85,6 | 19,5 |
| "Лен. шлях" | 81,1 | 16,0 |
| "Пар. камуна " | 76,2 | 22,3 |
| "Новы быт" | 70,6 | 16,1 |
| імя К. Маркса | 63,6 | 17,3 |
| "Смолькі" | 62,9 | 15,5 |
| "Расія" | 62,1 | 14,9 |
| "Новае жыццё" | 60,6 | 23,0 |
| "Забычанне" | 59,8 | 16,5 |
| "Праўда" | 50,6 | 14,5 |
| "Кранштат" | 46,7 | 18,1 |
| "Бароны" | 44,9 | 16,0 |
| імя Калініна | 41,5 | 15,4 |
| **ПА РАЁНУ:** | **67,5** | **18,8** |

## Зацішша на зернетаку

Вось і надышоў час, калі кожны хлебароб бачыць вынікі сваёй працы за год. Насенне для сёлетняга ўраджаю рыхтавалася яшчэ мінулай восенню, год назад, а азімыя, вядома ж, радавалі вока сваёй зелянінай яшчэ ў верасні.

Сёлета ўраджайнасць зерневых значна вышэй, чым у мінулым годзе, адпаведна, большы і валавы намалот. Радавацца б вяскоўцам, старацца хутчэй перапрацаваць што на насенне, што на фураж, засыпаць у засекі. Толькі ж не ўсюды спяшаюцца давесці да ладу сабраны ўраджай. Да прыкладу, давялося ў пятніцу 18 жніўня пабыць на зернетаку ў вёсцы Пралетарскае калгаса "Кранштат". Тут панавала цішыня. Толькі працавала сушылка. Некалькі жанчын, як высветлілася потым, з паляводчай брыгады, адпачывалі ў цяньку на траве. На таку ж, як паведаміла загадчыца яго В. А. Карпушка, ляжала 97 тон насеннай пшаніцы, якая не прайшла нават пярвічнай ачысткі. З другога боку насыпана была не меншая партыя насеннага жыта. Яно таксама чакала сваёй чаргі для перапрацоўкі. Аднак, тут не працаваў ніводны агрэгат.

— "Петкус" сёння паламаўся, — паведаміла Валянціна Аляксееўна – займаемся вывазам перпрацаванага жыта з тока ў засекі. Разгружаць машыну даводзіцца рыдлёўкамі, таму ўходзіць шмат часу. Аднак, на таку не было пэўны час і машын, таму работа не выконвалася. Як высветлілася, вадзіцель паехаў дадому апрацаваць рану на галаве, бо па неасцярожнасці ўдарыўся аб кузаў. На таку ж не знайшлося для гэтай мэты самага простага – ёду.

Затрымка, як здавалася, мала каго хвалявала. На зернетаку працуюць выпадковыя людзі. Сёння адны, заўтра другія. Таму і спытаць няма з каго. А тым часам багацце, якое стваралі хлебаробы, можа папсавацца за вельмі кароткі тэрмін, калі своечасова зерне не ачысціць, не давесці да належнай вільготнасці. Па дамоўленасці ў калгасе працуюць пяць мужчын са Століна. Двое з іх у гэты дзень былі заняты на таку. Вядома, прыехалі яны сюды працаваць, таму і хочуць, каб больш была загружанасць. Праўда, выказвалі мужчыны, ды і жанчыны з паляводчай брыгады іх падтрымалі, задаволенасць арганізацыяй харчавання.

— Па цяперашнім жыцці, — заўважыла маладзейшая з іх, -- харчаванне добрае, штодзень мяса даюць. Двойчы ў дзень кормяць.

І яшчэ станоўчае, што варта адзначыць, тут рамантавалі пратручвальнік для насення. Бо на наступны дзень збіраліся выязджаць у поле, сеяць азімыя.

Аднак, і тут ёсць свае праблемы. Людзі, што будуць заняты пратручваннем зерня, не поўнасцю забяспечаны спецадзеннем.

...На муравільскім таку таксама было ціха. Час быў абедзенны, і рабочыя адпачывалі. Як заўважыла загадчыца Н. Ф. Лістападава: — У нас невялікі аб'ём работ, таму хутка справімся, селі адпачыць, бо ў вушах ужо гудзе, жартавалі і рабочыя. Ім засталося адсартыраваць 12 тон насеннага жыта.

У калгасе "Расія" больш свядома ставяцца да перапрацоўкі зерня. Тут ішлі работы весялей. На таку знаходзілася толькі 20 тон аўсу, які трэба перапрацаваць.

— Пасля зарплаты былі ў нас праблемы ў арганізацыі працы на таку, — зазначыла загадчыца склада Г. С. Піпчанка. Цяпер механізм адладзілі.

На таку ў вёсцы Шарэйкі работы вядуцца ў дзве змены. Значную дапамогу ў перапрацоўцы зерня аказваюць вучні мясцовай школы. Раман Леўдзенка, Каця Тамашова, Таня Шастакова, Сяргей Парчэўскі працуюць на таку штодзень у першую змену. У другую змену тут працуюць работнікі бухгалтэрыі. Аб гэтым паведаміла Галіна Сцяпанаўна і дадала: "Сёлета і працаваць хочацца, бо на ток паступіла зерня ў два разы болей, чым у мінулым годзе".

Шмат добрых слоў выказала жанчына і ў адрас Генадзя Шашунова, які на таку не цураецца ніякай работы, і Ігара Піпчанкі, які працуе слесарам. Толькі дзякуючы яго стараннасці і майстэрству, дысцыплінаванасці перапрацоўчыя агрэгаты адладжаны, працуюць. Таму, напэўна, тут і спраўляюцца зерне хутка перапрацаваць і звезці ў склад. Кожны хварэе за даручаны ўчастак, за якасць выкананых работ, а ў выніку добра ўсім, калі ўсё парадкам ідзе.

Наталля КАВАЛЁВА.

# Калгасу “Парыжская камуна -

## З маленькага ручайка

Зімою 1928-29 гадоў, па ўспамінах жыхаркі вёскі Слабада Алены Міхайлаўны Кутузавай, часта праводзіліся сходы сялян, на якіх вялася размова аб аб'яднанні дробных аднаасобных гаспадарак у калектыўныя. Многія сяляне сумняваліся, выказвалі так сваю думку: "Ці будзе лепш у калгасе? Няхай дрэнная, бедная гаспадарка, ды свая".

18 сакавіка 1930 года адбыўся агульны сход, на якім трэба было канчаткова вырашыць пытанне аб стварэнні калгаса. Уважліва слухалі сяляне выступленне Герасіма Паўлавіча Сачнёва. "Для таго, каб пакончыць з галечай і адсталасцю, — гаварыў ён, — нам трэба па-новаму весці гаспадарку. Такі запавет вялікага Леніна". Паколькі сход праходзіў у Дзень Парыжскай камуны, такую назву атрымаў і калгас. Старшынёй калгаса быў выбран Г. П. Сачнёў.

Сяляне аб'ядналі сваю жывёлу, інвентар, а вясною 1930 года выйшлі працаваць у поле ўсе разам. Зямлі ў калгасе было 2 тысячы гектараў, 140 рабочых коней, 250 галоў буйной рагатай жывёлы, з якіх – 120 кароў.

Праўленне калгаса знаходзілася ў доме Якава Шупікава на Інтэрнацыянальнай вуліцы. Былі скамплектаваны тры брыгады, кожная з іх мела рабочы план. Выхоўваліся ашчадныя адносіны да грамадскай уласнасці. Кожны конь быў пад пэўным нумарам і замацоўваўся за калгаснікам. Ураджай збіралі па 5-5,5 цэнтнера збожжавых з гектара. Збожжа здавалі дзяржаве бясплатна.

Актыўна працавалі ў калгасе Ігнат Каралёў – загадчык жывёлагадоўчай фермы, а затым старшыня калгаса, Іван Нікалаенка – брыгадзір паляводства, Соф'я Нікалаенка і Алена Сачнёва – лепшыя даяркі.

Вясною 1931 года на палях калгаса з'явіўся першы трактар. Першымі трактарыстамі былі Арцём Куцаеў, Пётр Вавілаў і Пётр Чаркасаў.

Пастулова калгас набываў малатарні, веялкі, конныя жняяркі. Расло пагалоўе жывёлы, будаваліся фермы. Быў заключан дагавор з МТС, якая забяспечвала калгас машынамі. На працадні калгаснікі атрымлівалі па 1,5-2 кілаграмы зерня, 5-8 кілаграмаў бульбы. Прыбытак даваў і калгасны сад, плошчай 9 гектараў. У 1938 годзе з яго ў Ленінград было прададзена 80 тон яблыкаў.

Пасля вызвалення раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, калгас узначаліў Ігнат Андрэевіч Каралёў. Гэта быў надта цяжкі час. Не было ні коней, ні ўгнаенняў, ні насення, адно толькі гарачае жаданне залячыць раны вайны.

У 1958 годзе да "Парыжскай камуны" быў далучан калгас "Запаветы Ільіча", які знаходзіўся на тэрыторыі вёскі Студзянец і размешчаных ў наваколлі пасёлкаў. Старшынёй калгаса быў Пётр Іванавіч Сёмкін. Гаспадарка атрымлівала добрыя ўраджаі збожжавых, бульбы, лёну і ў 1961 годзе перайшла на грашовую аплату працы калгаснікаў. У гаспадарцы ўмела выкарыстоўваліся мінеральныя ўгнаенні, сродкі барацьбы са шкоднікамі і хваробамі раслін. Для апрацоўкі зямлі і выканання іншых сельскагаспадарчых работ мелася больш 30 трактароў розных марак, 16 аўтамабіляў, 10 збожжаўборачных камбайнаў, 2 камбайны для ўборкі лёну. Створаны буйныя жывёлагадоўчыя фермы, у якіх утрымлівалася больш як 3 тысячы галоў буйной рагатай жывёлы і свіней. Па вытворчасці малака і мяса калгас займаў адно з першых месц у раёне.

Да калгаса на працягу яго існавання далучаліся: калгас "Дас Лебен" ( быў арганізаваны ў 1928 г. з 14 сем'яў яўрэяў), "Запаветы Ільіча" (1958), "Рассвет", "Першае Мая", імя Варашылава, імя Жданава.

---

Старшынямі калгаса “Парыжская камуна”, увайшоўшых у яго калгасаў “Запаветы Леніна” і “Рассвет” былі: Г. Сачнёў (першы старшыня), І. Каралёў, М. Верамееў, А. Шаўцоў, Р. Жмейда, П. Фешчанка, І. Гракаў, А. Фешчанка, Г. Селязнёў, Т. Грынёў, Т. Кляус, Е. Базылева, П. Дрэкаў, Н. Рыжыкаў, П. Сёмкін, Ул. Непша, Ул. Фішар, П. Альхоўскі, С. Анціпенка, Ул. Капейка, В. Грышанаў, А. Міхеенка ўзначальвае калгас зараз.

### Удзельнікі ВДНГ СССР 1966 года

**Еўдакіменка** Клаўдзія Пятроўна – член брыгады калгаса. У брыгадзе атрымана па 6,44 цэнтнера насення і па 6,61 цэнтнера льновалакна з гектара.

Удзельнікамі выстаўкі таксама зацверджаны: Еўдакія Цімафееўна **Платонава**, Ніна Паўлаўна **Навуменка**, Хрысціна Аляксееўна **Таратынка**, Еўдакія Міхайлаўна **Ландышава**, Кацярына Васільеўна **Каралёва**, Акуліна Савельеўна **Леаненка** і Юлія Яфімаўна **Сігаёва**.



Больш як 455 тон збожжа намалаціў у сёлетнім годзе экіпаж у складзе Пятра Аляксандравіча Лахцікава (справа) і Аляксандра Пятровіча Мякенькага. Камбайнеры старанна падрыхтавалі сваю машыну да ўборкі і цяпер у іх другі вынік сярод экіпажаў калгаса.

Сапраўдным майстрам па адкорму буйной рагатай жывёлы з'яўляецца Надзея Ермалаеўна Прыходзька. Багаты вопыт, старанне дапамаглі ёй дабіцца сярэднесутачных прываг кожнай жывёліны за 6 месяцаў па 625 грамаў.



## НА ПЯРЭДНІМ КРАІ

Нам бясконца дарагая памяць аб тых, што былі першапраходцамі ў барацьбе за станаўленне калгаснага ладу. На той час усё было ўпершыню. Першы трактар. Першы калгас. Першая пяцігодка. Сёння іншыя падзеі і здзяйсненні. Але, каб добра зразумець і правільна ацаніць сённяшнія магчымасці, неабходна хаця б крыху прыўзняць заслону гісторыі, аб чым і расказваецца ў матэрыялах, падрыхтаваных супрацоўнікамі раённай газеты.

Мне ж застаецца дадаць, што рубяжы, на якія мы выходзім у сельскагаспадарчай вытворчасці, для нас нялёгкія. І тым не менш, валавы збор зерня на цяперашні час, калі ўжо ўбрана 65 працэнтаў плошчаў, склаў 1966 тон. Сярэдняя ўраджайнасць — 22,5 цэнтнера з гектара. Дзяржаве прададзена 600 тон збожжа, 410 – засыпана на зернефураж, 300 тон нарыхтавана насення для сяўбы азімых. Уборачныя работы працягваюцца. Жніво нездарма называюць бітвай за хлеб. Яно патрабуе сапраўднай мужнасці, стойкасці, гераічных намаганняў. На пярэднім краі барацьбы за ўраджай ідуць камбайнеры Сяргей Аляксандравіч Гракаў, які намалаціў 535 тон зерня, Пётр Аляксандравіч Лахцікаў, на яго рахунку 455 тон. Дарэчы, ён жа і перавёз на аўтамашыне "ЗІЛ-130" з поля на збожжаток 464 тоны зерня. Трэці вынік па калгасу сярод камбайнераў у Анатоля Аляксандравіча Лахцікава – 442 тоны. Увогуле можна называць у ліку лепшых многіх механізатараў. Калектыў падабраўся працаздольны і адносна малады па ўзросту – 30-35 гадоў.

У калгасе 27 колавых трактароў і 12 аўтамашын. На нарыхтоўцы кармоў, уздыме зябліва, перавозцы збожжа вызначыліся Сяргей Аляксеевіч Смолькін, Віталь Уладзіміравіч Емяльянцаў, Аляксандр Аляксандравіч Цвяткоў, Уладзімір Мікалаевіч Рываненка, Аляксандр Міхайлавіч Прыходзька, Мікалай Пятровіч Пацёмкін і іншыя.

Адна з самых вопытных майстроў жывёлагадоўлі Валянціна Васільеўна Цімашэнка за 7 месяцаў надаіла па 2318 кілаграмаў малака ад каровы. Яна ў мінулым годзе стала пераможцай у раённым і абласным спаборніцтвах. Прадуктыўнасці жывёлы дабіваюцца сваёй бездакорнай працай даяркі Ася Уладзіміраўна Грынькова, Любоў Аляксееўна Міранкова. Любоў Аляксееўна, хаця і на пенсіі, але працягвае працаваць і дабівацца поспехаў. Калектыў Слабадской фермы, дзе працуюць названыя даяркі, займае першае месца. Сярэдні надой ад каровы за 7 месяцаў тут склаў па 2050 кілаграмаў.

Высокіх прываг на адкорме буйной рагатай жывёлы дабіваюцца Надзея Ермалаеўна Прыходзька, Мікалай Патапавіч Сільчанка, Таццяна Фёдараўна Шкумаева, на гадоўлі – Мікалай Якаўлевіч Ермакоў, Кацярына Іванаўна Дудко, Алена Міхайлаўна Сергіенка.

Праўленне калгаса, у сваю чаргу, імкнецца паляпшаць умовы працы для работнікаў ферм. У прыватнасці, праведзена рэканструкцыя памяшкання на жывёлагадоўчым комплексе, заканчваецца будаўніцтва Студзянецкай фермы.

На фермах калгаса ўтрымліваецца 2093 галавы буйной рагатай жывёлы, з якіх 360 кароў. Ёсць 637 свіней. Для жывёлы на прадстаячы зімова-стойлавы перыяд нарыхтавана 312 тон сена, 3065 тон сенажу, 753 тоны саломы. Нарыхтоўка кармоў не спыняецца. Прадстаіць убіраць кукурузу, плошча якой 147 гектараў.

Хочацца верыць, што эканоміка гаспадаркі ў далейшым будзе ўмацоўвацца. Залог гэтаму – нашы людзі, якія самаадданна працуюць на палях і фермах. Нізкі паклон за гэта ўсім вам!

**Аляксандр МІХЕЕНКА,**
**старшыня калгаса.**

## Радкі дасягненняў

1982 год. Найвышэйшы ўраджай збожжавых сабраны ў першай паляводчай брыгадзе, якую ўзначальваў М. Даніленка. З кожнага гектара тут намалочана па 21,2 цэнтнера зерня.

Ударна папрацавалі на жніве І. Сцепаненка і М. Лебедзеў. Яны сталі пераможцамі не толькі сярод камбайнераў калгаса, а і раёна. За сезон І. Сцепаненка на камбайне “Колас” намалаціў 446 тон збожжа, М. Лебедзеў – 374 тоны.

Плённа працавалі бульбаводы. На кожным са 130 гектараў накапана 203,6 цэнтнера клубняў. Звяно У. Даніленкі на кожным з 35-ці гектараў вырасціла і сабрала па 256,6 цэнтнера клубняў. Ён жа разам з А. Трушчанкам бульбакапалкай накапаў 1024 тоны клубняў.

Найвышэйшы ўраджай кукурузы – па 345,3 цэнтнера з гектара – атрыманы ў 2-й паляводчай брыгадзе, якую ўзначальваў В. Мельнікаў.

У авангардзе спаборніцтва жывёлаводаў ішлі даяркі А. Саўчанка, М. Карнеенка, М. Аляксеенка.

## Кніга – сябра і дарадчык

Студзянецкая сельская бібліятэка была арганізавана ў жніўні 1952 года. Першай яе загадчыцай была Любоў Бяляцкая. З ранейшай хаты-чытальні па акту ў бібліятэку было перададзена 296 экземпляраў кніг коштам 170 рублёў. Такім быў пачатковы фонд і да канца года літаратуры больш не паступала. Бібліятэка размяшчалася ў памяшканні выканкама сельсавета, разам з паштовым аддзяленнем і хатай-чытальняй. Пазней, у 1958 годзе, хата-чытальня была пераведзена ў памяшканне Бароўскага сельскага клуба.

У 1955 годзе загадчыцай бібліятэкі была прызначана Надзея Аўчыннікава. Кніжны фонд значна павялічыўся і складаў ужо 2085 экземпляраў. Па выніках агляда-конкурсу культурнаасветных устаноў раёна ў 1957 годзе бібліятэка была ўзнагароджана Граматай (заг. Іна Юдзянкова). За год набыта 353 экземпляры кніг. Праводзілася значная масавая работа сярод насельніцтва.

Пасля заканчэння Магілёўскага бібліятэчнага тэхнікума загадчыцай бібліятэкі ў 1962 годзе была накіравана Надзея Пруднікава. Кніжны фонд складаў 6870 экземпляраў. На тэрыторыі абслугоўвання былі 2 школьныя і адна сельская бібліятэкі. Чытачоў – 489, кніжны фонд – 8392 экземпляры. Працаваў савет і актыў бібліятэкі.

Цяпер бібліятэка размяшчаецца ў пакоі Студзянецкай пачатковай школы. Кніжны фонд складае 11398 экземпляраў.

**Валянціна ГРЫНЁВА,**
**загадчыца Студзянецкай бібліятэкі.**

## Ветэраны калгаса

У 1956 годзе калгас імя Жданава (вёскі Жабыкі, Геранімаўка) быў аб'яднаны з калгасам "Парыжская камуна". З гэтага часу Іван Сямёнавіч Жабыка стаў працаваць брыгадзірам комплекснай брыгады. Да гэтага часу ён працаваў на ваенным заводзе ў Свярдлоўску, быў старшынёй калгаса, вучыўся ў Магілёўскай сельскагаспадарчай школе, дзе атрымаў спецыяльнасць агранома.

Толькі адзін штрышок з працоўнай дзейнасці ветэрана. У пачатку 50-х гадоў калгасам раёна была аказана дапамога ў набыцці насеннай бульбы. Насенны матэрыял са станцыі Камунары трэба было забіраць тэрмінова, а трактары і аўтамашына якраз знаходзіліся ў рамонце. Заставалася адно выйсце: коні і ўласныя плечы. Іван Сямёнавіч арганізаваў да 20 мужчын, якія амаль усю бульбу перанеслі ў мяшках на ўласных плячах. Прыклад паказвалі старшыня калгаса Н. Рыжыкаў і аграном І. Жабыка.

Агульны працоўны стаж ветэрана – 57 гадоў, з якіх 51 аддадзены калгаснай вытворчасці.

X X X

40 гадоў працавала галоўным бухгалтарам калгаса Ала Канстанцінаўна Фаенка. За добрую пастаноўку бухгалтарскага ўліку і работу сваіх падначаленых, своечасовыя справаздачы неаднаразова заахвочвалася прэміямі, падарункамі, граматамі. Трэба ўлічыць, што ўсё новае ў фінансавай справе перш-наперш апрабоўвалася ў калгасе "Парыжская камуна", а ўжо потым знаходзіла распаўсюджванне ў іншых гаспадарках раёна.

X X X

Пётр Мікалаевіч Чукіла – ветэран вайны і працы. Прайшоў вайну, як кажуць, ад званка да званка, з 1941-га і да дня Перамогі. Быў цяжка паранены і знаходзіўся ў шпіталі ў Румыніі 8 месяцаў. Пасля вайны П. М. Чукіла працаваў у гандлі, а з 1958 па 1987-ы год, ён намеснік старшыні калгаса. І пасля выхаду на пенсію ветэран аказвае пасільную дапамогу калгасу. Працуе прыёмшчыкам бульбы, збожжа, фуражырам. Мае грамадскае даручэнне – старшыня рэвізійнай камісіі калгаса.

**Іван ФАЕНКА.**

Матэрыялы да друку падрыхтавалі: Віктар Бондараў. Людміла Смалякова (фота).

# 70 ГАДОЎ

*Год 1934-ы. З летапісу*

## Перапіска чырвонаармейцаў з калгаснікамі

Вялікія і адказныя задачы вырашалі ў 1933-34 гг. палітаддзелы машынна-трактарных станцый.

Значную ролю ў гэтым напрамку адыграў і палітаддзел Касцюковіцкай МТС. Ён выдаваў сваю газету "Ударнік сацыялістычных палёў".

У нумары 19 за 6 жніўня 1934 года апублікавана "Пісьмо чырвонаармейцаў". У ім гаворыцца:

"Прайшло ўжо восем месяцаў, як вы нас праводзілі ў Чырвоную Армію, давалі нам наказ, каб мы па-ўдарнаму, па-бальшавіцкаму авалодвалі баявой і палітычнай падрыхтоўкай, каб мы былі яшчэ больш баяздольнымі абараняць нашу Радзіму.

Мы аб'явілі сябе ўдарнікамі, узялі на сябе абавязацельствы – засвойваць усе дысцыпліны на "выдатна". І метадам сацспаборніцтва і ўдарніцтва мы гэтыя абавязацельствы выканаем".

Далей у пісьме гаворыцца, што чырвонаармейцы – ураджэнцы Касцюковіцкага раёна – вывучылі пастанову ЦК ВКП(б) аб уборцы ўраджаю, датэрміновай здачы дзяржаве збожжа і іншых культур, а таксама аб развіцці жывёлагадоўлі. Чырвонаармейцы выказалі ўпэўненасць, што калгаснікі Касцюкоўшчыны выведуць раён у перадавыя. У заключэнне пісьма гаворыцца:

"Мы чакаем адказы ад вас, таварышы калгаснікі, на наша пісьмо.

Чырвонаармейцы В. Быхавец, В. Прыцікаў, Куляшоў".

Неўзабаве (12 лістапада 1934 г.) газета "Ударнік сацыялістычных палёў" змясціла адказ воінам-землякам пад загалоўкам: "Мы цвёрда трымаем пераходны сцяг у сваіх руках". Вось яго змест:

"Калгас "Парыжская камуна" арганізаваўся ў 1930 годзе і на працягу ўсяго часу калгаснікі змагаліся за ўмацаванне гаспадаркі.

Калгас уключыўся ў конкурс на лепшую жывёлагадоўчую ферму, за сытую, цёплую зімоўку жывёлы.

Чырвоны пераходны сцяг Касцюковіцкага мясцовага Савета трымаем цвёрда ў сваіх руках. Мы абавязаліся таксама і на 1935 год не здаваць сваіх перадавых пазіцый.

А вось нашы лепшыя калгаснікі: Ларывон Банькоў, 60 год узросту, выконвае абавязкі начнога конюха, а днём ён заўсёды ішоў на сяўбу, дзе змагаўся за добры догляд цяглавай сілы на сяўбе.

Герасім Смолікаў, член Касцюковіцкага мясцовага Савета, член праўлення калгаса, ён заўсёды дапамагае брыгадзіру.

Лявон Навуменка добра, актыўна працуе ў агародняй брыгадзе брыгадзірам. У яго агарод у добрым стане.

Паляводчая брыгада з'яўляецца перадавой увесь час на ўсіх работах у калгасе. Брыгада ўзяла прэмію ў пасяўную кампанію, а таксама ў сенакос – радыёпрыёмнік рэдакцыі "Крестьянской газеты" (Масква).

Мар'я Торбачкіна, Феадосія Леаненка, Праскоўя Леаненка, Хіля Грузд, Гаша Сачнёва – гэта лепшыя ўдарніцы, знатныя жанчыны калгаса".

*З гісторыі*

## Студзянец

У XVIII ст. вядома як мястэчка ў Крычаўскім старостве Вялікага княства Літоўскага. У 1744 г. у мястэчку меліся праваслаўная царква і школа. Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 г. у складзе Расійскай імперыі. У гэтым жа годзе тут 15 двароў, 62 жыхары. У статыстычным апісанні губерні 1784 г. упамінаецца як маёнтак. У 1799 г. 42 двары, 168 жыхароў, 68 жыхароў значыліся ва ўцёках. Побач размяшчалася Студзянецкая Гута, 3 двары, 13 жыхароў, якія займаліся вырабам паташу.

У XIX ст. мястэчка, цэнтр аднайменнага маёнтка ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губерні. Па рэвізіі 1833 г. 138 сялянскіх душ, уладанне генерал-маёра М. Свінвінава, у 1846 г. маёмасць яго дачкі памешчыцы Ганны Свінвінавай, якой належала 17960 дзес. зямлі. Паводле інвентара 1846 г. у склад маёнтка ўваходзілі 4 фальваркі і 13 вёсак. Памешчыцы належала 2515 сялянскіх душ. Праз маёнтак праходзіла гандлёвая дарога на Вятку. Меліся 3 карчмы, 7 вадзяных млыноў, 2 сукнавальні, млын, 3 паравыя вінакурні, 2 піцейныя дамы, 2 хлебазапасныя магазіны. Асноўным заняткам сялян было земляробства і жывёлагадоўля. Былі распаўсюджаны кавальскі, сталярны, бандарны, калёсны промыслы. У зімовы час сяляне займаліся возніцкім промыслам, атрымліваючы за кожныя 50 вёрст 50 коп. серабром, вясной і летам – сплавам лесу, атрымліваючы 3 руб. серабром у месяц. Працавала дзягцярна-смаляное прадпрыемства, дзе выраблялася да 1400 пудоў дзёгцю, з трох вінакурань атрымлівалі 11200 вёдзер віна, з якіх 175 вёдзер прадавалі па 2 руб. серабром за вядро. А астатнія оптам за 70 коп., даход складаў 8067 руб. серабром. Дзейнічаў паташны завод, даход з якога складаў 264 руб. серабром. У фальварку размяшчалася бальніца для сялян на 25 ложкаў, якая ўтрымлівалася за кошт памешчыцы. У 1850 г. у фальварку была заснавана маслабойка, у 1855 г. – сукнавальня. У 1864 г. адкрыта народнае вучылішча. У 1879 г. пачало дзейнічаць канатна-ільнотрапальнае прадпрыемства. На 1880 г. мястэчка, сяло, 130 двароў, 1571 жыхар, уладанне двараніна Цярэшчанкі. Тут размяшчаліся валаснoе праўленне, мяшчанскі стараста, 2 праваслаўныя царквы, 2 маслабойкі, яўрэйская малітоўная школа, 2 лаўкі, вадзяны млын. Штогод 26 кастрычніка і 20 лістапада праводзіліся 2 трохтыднёвыя кірмашы. У 1886 г. мястэчка пры возеры Студзянецкім, 148 двароў, 680 жыхароў, былое прыватнае ўладанне ў Студзянецкай воласці Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губерні. На пачатку XX ст. мястэчка на вялікай дарозе пры р. Жадунька, цэнтр воласці, належала Студзянецкай сельскай грамадзе, якая валодала 1089 дзес. зямлі. У 1909 г. у мястэчку было 203 двары, 1526 жыхароў. Побач размяшчаўся фальварак, які належаў памешчыкам братам Цярэшчанкам (мелі 403 дзес. зямлі). У мястэчку працавалі народнае вучылішча, лячэбны прыёмны пакой. На базе дарэвалюцыйнай школы ў 1918 г. створана працоўная школа 2-й ступені імя Камінтэрна, якой быў перададзены нацыяналізаваны памешчыцкі будынак. У 1922 г. створана кааператыўнае таварыства, на базе якога быў арганізаваны саўгас, які ўваходзіў у Аршанскі свінагадоўчы трэст. З 20.8.1924 г. вёска – цэнтр сельсавета Касцюковіцкага раёна Калінінскай, з 9.6.1927 г. Магілёўскай акругі. У 1924 г. пачатковая школа была ператворана ў сямігадовую, у 1927 г. тут навучаўся 321 вучань. Паводле перапісу 1926 г., у сяле 245 двароў, 1039 жыхароў. Тут размяшчаліся вадзяны млын, сукнавальня, ваўначоска, 2 кузні, майстэрні па пашыве мужчынскіх капелюшоў, па вырабе аўчын, шавецкая. У 1930 г. створаны 2 калгасы – "Рассвет" і "Запаветы Ільіча". У час Вялікай Айчыннай вайны ў баях з нямецка-фашысцкімі захопнікамі пры вызваленні вёскі 28.9.1943 г. загінулі 42 воіны 269-й стралковай дывізіі. У цэнтры вёскі ў 1956 г. на брацкай магіле савецкіх воінаў пастаўлены помнік – скульптура воіна.

У вёсцы размешчаны аддзяленне сувязі, фельчарска-акушэрскі пункт, школа, магазін.

**Сёння -- 80 гадоў дзяржаўнай статыстыцы**

## У моры лічбаў -- малюнак жыцця

Кожны дзень аналізуецца работнікамі статыстыкі мноства лічбаў. Менавіта тут іх мовай адлюстраваны малюнак жыцця любой галіны дзейнасці чалавека. Стваралася гэта не адным днём і нават не адным годам. А сёння сваё 80-годдзе адзначае дзяржаўная статыстыка. Мне не хацелася б сёння гаварыць пра гісторыю стварэння нашай службы, заззначу толькі тое, што сабраныя звесткі работнікамі статыстыкі, дазваляюць пазнаць праблемы, якія накопліваюцца ў раёне, знайсці рашэнне, а іншы раз і выхад са склаўшагася становішча. Уся інфармацыя аб развіцці нашага раёна збіралася дзесяцігоддзямі людзьмі, якія прысвяцілі гэтай рабоце сваё жыццё. Пад іх кіраўніцтвам праведзены шэраг буйных даследаванняў, іх рукамі рабілася сістэматызацыя статыстычных даных, іх абагульненне і аналіз.

Так, у 1943 годзе ў раённы аддзел статыстыкі прыйшла працаваць Вера Сямёнаўна Ткачова, якая была верная сваёй справе да заканчэння працоўнай дзейнасці. Амаль 40 гадоў у статыстыцы адпрацавала Анастасія Арсенц'еўна Селіванава. За сваю працу яна была ўзнагароджана медалём "Ветэран працы", значком "Выдатнік сацыялістычнага ўліку", шматлікімі ганаровымі граматамі, а ў 1982 годзе яе прозвішча занесена ў Кнігу гонару статыстычнага ўпраўлення вобласці. Анастасія Арсенц'еўна заслужыла гэта за шматгадовую, плённую працу ў органах дзяржаўнай статыстыкі.

Больш трыццаці гадоў свайго жыцця аддаў рабоце ў статыстыцы Леанід Сяргеевіч Шпакоўскі. З іх больш дваццаці гадоў ён узначальваў калектыў раённага аддзела статыстыкі. Яго праца таксама адзначана шматлікімі ўзнагародамі.

Дарэчы, у сценах раённага аддзела статыстыкі атрымалі добрую "загартоўку" цяперашнія дырэктар узбуйненай друкарні Г. І. Белезякова, галоўны бухгалтар цэнтральнай раённай аптэкі В. Л. Ліпская. Ды і зараз у нашым калектыве працуюць дысцыплінаваныя, адданыя сваёй справе людзі. Вось ужо больш двух дзесяткаў гадоў аналізуюць статыстычныя даныя па нашаму раёну Т. В. Краўчанка і Т. М. Ганчарова.

Для атрымання патрэбных дадзеных раённаму статыстыку даводзіцца мець зносіны з самымі рознымі людзьмі з розных арганізацый. Ад таго, як статыстык умее знаходзіць падыход, агульную мову з бухгалтарамі, залежыць паўната і дакладнасць тых звестак, якія яму паведамляюць. Іншымі словамі кажучы, статыстык павінен не толькі ведаць сваю справу, а і быць яшчэ тонкім псіхолагам. Добры статыстык – гэта перш за ўсё чалавек прынцыповы, які не мірыцца з недакладнасцямі і памылкамі.

Вядома, за такі вялікі гістарычны шлях статыстыкі шмат чаго змянілася і з тэхнічнай аснашчанасцю. Раней мы былі ўзброены звычайнымі лічыльнікамі, што не выключала магчымасці недакладнасцей у падліках. Цяпер жа нашы работнікі маюць электронную вылічальную тэхніку, у аддзеле ўсталяваны камп'ютэр, які асвойваюць нашы статыстыкі. Спадзяемся, што і ў далейшым праца статыстыкаў будзе аблягчацца ўвядзеннем прагрэсіўных форм і метадаў работы.

І сёння, у дзень прафесійнага свята, хочацца ад усяго сэрца сказаць усім супрацоўнікам аддзела і ветэранам вялікі дзякуй за іх нялёгкую і адказную працу. Віншую ўсіх са святам, жадаю моцнага здароўя, поспехаў ва ўсіх справах, паболей светлых дзён, усмешак, радасці, упэўненасці ў заўтрашнім дні.

**Тамара БАБКОВА,**
**начальнік раённага аддзела статыстыкі.**

***Як вас абслугоўваюць?***

## ПАКУПНІКУ ПАТРЭБНЫ НЕ ТОЛЬКІ ТАВАР



Толькі што закончыўся рабочы дзень на прадпрыемствах, у арганізацыях, і да гандлёвага цэнтра, што на мікрараёне "Маладзёжны", як да мурашніка мурашкі, спяшаліся пакупнікі. Кожнаму хацелася нешта набыць свежанькае на вячэру. А тут якраз падвезлі каўбасныя вырабы з Магілёўскага мясакамбіната.

Каля мяса-малочнага аддзела хутка ўтварылася чарга і маладыя прадаўцы спяшаліся абслужыць пакупнікоў. Аднак чарга расла. Заўважыўшы, што ў прадаўцоў аддзела, як кажуць, напружаная абстаноўка, ім на дапамогу паспяшалася загадчыца магазіна Валянціна Іванаўна Макавеева. Справы пайшлі хутчэй. І тут ля прылаўка стаяла бабуля. Яна паклала пакупку ў сумку, а здачу недаверліва пералічвала адзін, другі раз.

— У чым сумняваецеся, бабуля? — звярнулася да яе Валянціна Іванаўна.

Маладзейшыя пакупнікі ў чарзе пачалі абурацца, маўляў, не затрымлівай, старая, спяшаемся дадому.

— Колькі далі мне здачы? — запыталася тая.

Валянціна Іванаўна пачала пералічваць кошт яе пакупак, складвала сумы, тлумачыла ўслых, што засталося з пяці тысяч дзве чатырыста. Старая загортвала здачу ў пакамечаную насоўку. А Валянціна Іванаўна спакойна звярнулася да чаргі.

— Не крыўдзіцеся на бабульку. Мы ўсе будзем такімі старымі.

Колькі стрыманасці, дабраты, пяшчоты прагучала ў голасе загадчыцы магазіна. Як удалося ёй, адпрацаваўшы за гандлёвым прылаўкам амаль тры дзесяцігоддзі, захаваць павагу да пакупніка? Штодзень у стракатай чарзе яна бачыць мноства людзей з розным настроем, характарам. Іншы раз гэта асабліва бачна. І тым не менш Валянціна Іванаўна імкнецца кожнага абслужыць ветліва.

Пачынала Макавеева прадаўцом у вёсцы Вялікі Бор. Сама ж жыла ў суседняй – Вараноўцы. Замуж выйшла за вялікаборскага, як гаварылі, самага лепшага, самага прыгажэйшага хлопца — Мікалая.

У вёсцы ведалі Валянціну ўсе, як добрую жанчыну, спакойную. І паважалі, не гледзячы на малады ўзрост.

Потым сям'я Макавеевых пераехала жыць на Слабаду. Выбранай прафесіі Валянціна Іванаўна не здрадзіла і тут. Працавала загадчыцай склада на міжрайбазе, а як адкрывалі гандлёвы цэнтр, прапанавалі ўзначаліць калектыў. З таго часу нязменна працуе загадчыцай прадуктовага магазіна гандлёвага цэнтра. Колькі маладых прадаўцоў, як кажуць прайшлі праз яе рукі. Многія звольніліся па розных прычынах. Толькі з загадчыцай ва ўсіх былі добрыя, службовыя адносіны. Валянціна Іванаўна здольна знайсці сцяжынку да кожнага, аб'яднаць, згуртаваць калектыў. Да яе парад прыслухоўваюцца маладыя. Па-мацярынску іншы раз суцешыць пакрыўджанага. Таму, напэўна, паважаюць В. І. Макавееву ў калектыве. Дырэктар гандлёвага прадпрыемства "Цэментгандаль" Р. М. Саўчанка заўсёды называе яе ў ліку лепшых працаўніц.

— На такіх, як Валянціна Іванаўна, адданых сваёй справе, патрабавальных, працавітых трымаецца гандаль. Калектыў стабільна выконвае планавыя заданні, — гаворыць Раіса Міхайлаўна і дадае:

— Яны любыя праблемы ў калектыве вырашаюць разам і хутка. Тут разумеюць адзін аднаго, а ў выніку гэта прыносіць толькі карысць агульнай справе.

Напэўна добрыя словы кіраўніка таксама натхняюць калектыў на добрыя справы. Таму хочацца пажадаць калектыву гандлёвага цэнтра поспехаў!

**Наталля КАВАЛЁВА.**

**На здымку: калектыў прадуктовага магазіна гандлёвага цэнтра (злева направа) Галіна РЫЖАНКОВА, Валянціна МАКАВЕЕВА (загадчыца), Алена Картыжова і Таццяна ЗАХАРАВА..**

**Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.**

# Для удобства граждан

В настоящее время в Костюковичском РОВД проводится отработка жилого сектора. Это необходимо по ряду объективных причин: во-первых, ознакомление участковых инспекторов с населением, проживающим на обслуживаемом административном участке; во-вторых, для своевременного выявления лиц, склонных к противоправному поведению; в-третьих, для раскрытия преступлений, для установления фактов незаконного хранения огнестрельного оружия, ранее судимых, уклоняющихся от учета в органах внутренних дел. Все, вышеперечисленное, невозможно осуществить в полной мере без действенного контакта милиции, в частности, участковых инспекторов с населением.

Поэтому каждый участковый инспектор на обслуживаемом участке осуществляет подворный обход, а также в определенные дни принимает граждан по вопросам, находящимся в компетенции участкового инспектора. Сельские участковые принимают граждан в сельском Совете, а городские участковые инспектора -- это майор Л. Н. Волков, капитан Ю. В. Коваленко, капитан С. Т. Ярош-- принимают граждан в здании РОВД по адресу: ул. Ленинская, д. 60, телефон: 21-406.

Сельские участковые инспектора, а именно: ст. лейтенант милиции М. М. Мамуто обслуживает Демидовичский сельский Совет, принимает граждан каждый четверг с 9.00 до 17.00; прапорщик милиции Ю. В. Павленко – Белынковичский сельский Совет, принимает граждан каждую пятницу с 10.00 до 14.00; майор милиции Н. Д. Лахтиков – Белодубровский сельский Совет, принимает граждан каждый четверг с 13.00 до 16.00; ст. лейтенант А. А. Чертков – Пролетарский сельский Совет, принимает граждан каждый четверг с 9.00 до 11.00; капитан Н. В. Говрунов – Забычанский сельский Совет, принимает граждан каждую среду с 10.00 до 16.00; капитан милиции Н. И. Москалев – Селецковский сельский Совет, принимает граждан каждый четверг с 9.00 до 17.00.

Каждый сельский участковый инспектор осуществляет прием граждан в сельском Совете в указанные дни. Это сделано для удобства граждан, чтобы они могли быстро обратиться за помощью к сотруднику милиции, а также для своевременного принятия мер к правонарушителям. При получении заявления от гражданина, участковый инспектор должен выдать ему талон-уведомление о том, что от гражданина принято заявление, а также разъяснить куда, к кому ему необходимо обратиться, если участковый инспектор в силу своей компетенции не вправе принимать решение по тому или иному вопросу.

**Сергей БАЗАНОВ,**
**и.о. ст. инспектора ООПП Костюковичского РОВД, лейтенант милиции.**



**У сонечны дзень у лесе.**

**Фотаэцюд Людмілы Смаляковай.**

*В шутку и всерьёз*

# Реклама библиотекаря

Господа, коллеги! Хотя какие господа, какие коллеги? Это же меня заведующая послала рекламу в газету дать, а я волнуюсь. И фамилия у меня такая – Волнушка. Волнуюсь, и всё забываю. Как рекламу дать, когда у нас и без нее читателей хоть отбавляй, или прибавляй. Что написать, что рекламировать уже и не знаю. Волнуюсь... О себе что-то сказала: мол, привлекательная, хозяйка читального зала, библиотекарь 1-й категории, мечтаю иметь высшую и... онемела. Забыла и заволновалась.

Вспомнила, что я спокойная, уравновешенная и с юмором. Юмор из меня почему-то сам выскакивает или выпрыгивает. Работаю, говорю, в толстостенном здании – дома бывшего купца Винокурова. Фамилия-то какая! А моя – Волнушка. Всякому читателю (а их 4,5 тысячи) 75 лет помогает библиотека. В ней тепло, светло, много цветов на широченных, широкоплечих подоконниках, обрамляющих привлекательные книжные выставки. Зеленые островки разбросаны по всему читальному залу. Под ними содержательно и весело отдыхают во время заседаний члены 4-х обществ: "Криничка", "Селена", "Орхидея" и "Лад". Да еще прибавила, что библиотека носит имя нашего земляка, народного писателя Ивана Чигринова.

Рекламу в газету приняли, но не опубликовали. Проходит полгода (а может и меньше), не помню, заведующая и спрашивает: "Где реклама?" А я уплатить забыла, вернее, забыли мне дать деньги в бухгалтерии. Не забыли, а их просто не было и сейчас нету. Вот я и решила: пойду в народ. И обращаюсь:

— Мужчина, у вас есть проблемы?
— Мадам, а у вас есть проблемы?
(Ко всем) – А у вас есть проблемы? — А у нас решения!

Обращайтесь в Костюковичскую центральную библиотеку, ежедневно, кроме понедельника, ул. Ленинская, 28, телефон 2-10-74. Здесь вас всегда ждут!

**Записал Виктор БОНДАРЕВ.**

Аддзел эканамічных навін

# ПАДРЫХТАВАНЫ ЗБОРНІК

Камітэтам цэн пры Міністэрстве эканомікі Рэспублікі Беларусь сумесна з рэдакцыяй часопіса "Партфель бухгалтара і аўдытара" падрыхтаваны зборнік заканадаўчых і нарматыўных актаў, якія рэгламентуюць пытанні цэнаўтварэння ў Рэспубліцы Беларусь. Адметнымі асаблівасцямі зборніка, які выпушчаны ў форме спецыяльнага нумара часопіса "Партфель бухгалтара і аўдытара", з'яўляюцца:

кантрольны стан нарматыўных актаў на 1 ліпеня 2000 года. У публікуемыя дакументы ў поўным аб'ёме ўнесены ўсе змяненні і дапаўненні, прынятыя з моманту іх уводзення;

комплексная падача матэрыяла. Зборнік аб'ядноўвае ўсе асноўныя заканадаўчыя і нарматыўныя акты па пытаннях цэнаўтварэння, якія суправаджаюць інструкцыі і растлумачэнні Камітэта цэн пры Міністэрстве эканомікі Рэспублікі Беларусь. Такі падыход выключае магчымыя недакладнасці прымянення дзейнічаючага заканадаўства;

зручнасць карыстання. Усе нарматыўныя акты структурыраваны па адпаведных раздзелах, што аблягчае пошук дакументаў і забяспечвае сістэмны падыход да іх прымянення. Дэталёва асветлены асаблівасці фарміравання цэн і тарыфаў па галінах і відах дзейнасці, а таксама пры ажыццяўленні знешнегандлёвых аперацый, пры правядзенні тавараабменных здзелак і здачы маёмасці ў арэнду.

Паколькі сёння пытанні цэнаўтварэння з'яўляюцца аднымі з самых актуальных, зборнік уяўляе цікавасць для прадпрыемстваў усіх форм уласнасці.

Падрабязную інфармацыю можна атрымаць у рэдакцыі часопіса "Партфель бухгалтара і аўдытара" па тэлефоне (017) 210-44-84.

**Ю. БАЛЬШАКОЎ.**

# З надзеяй на супрацоўніцтва!

Вас вітае рэдакцыя газеты "Чырвоная змена"

Як вы заўважылі, на старонках нашага выдання праходзіць конкурс "Лепшы пазаштатнік месяца".

Дыплом беларускай маладзёжнай газеты і прэмію ўжо атрымалі Ала Бібікава са Шчучына, Маргарыта Волкава з Бешанковіцкага раёна, Ніна Рыбік з "Астравецкай праўды" і іншыя няштатныя аўтары.

Запрашаем і вас, шаноўныя, да ўдзелу ў конкурсе. Нашым чытачам будзе цікава даведацца пра тое, што адбываецца ў вашым раёне, якімі клопатамі жыве моладзь, якую падтрымку мае ад кіраўніцтва, што перашкаджае вырашэнню праблем і як, на ваш погляд, гэтаму можна дапамагчы.

Чакаем ад вас замалёвак, нарысаў, фельетонаў, гумарэсак. Словам, тварыце! Газета рада прадаставіць для вашых матэрыялаў старонкі і па традыцыі аўтара лепшай публікацыі ўзнагародзіць грашовай прэміяй у памеры 5 мінімальных зарплат.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ,**
**рэдактар газеты "Чырвоная змена".**







*Поздравляем!*

*Горячо и сердечно поздравляем с днем рождения*
*БЕЛАНЬ*
*Петра Александровича*
*С днем рожденья мы вас поздравляем,*
*От души хотим пожелать –*
*Пусть чаша жизни, полная до края,*
*Еще сто лет не будет убывать.*
*Удач в делах вам, счастья в доме вашем,*
*Здоровья, мира и тепла.*
*И чтоб беда ни днем, ни ночью*
*На ваш порог дороги не нашла.*
***Коллектив предприятия мелиоративных систем.***

*XXX*

*От всей души поздравляем с 40-летием со дня рождения*
***ЧУКИЛО***
***Николая Николаевича***
*Желаем крепкого здоровья,*
*Желаем радости большой.*
*И пусть минуют все ненастья,*
*Пройдут обиды стороной.*
*И пусть здоровье будет крепким.*
*А сердце вечно молодым.*
***Жена Людмила, сын Михаил, дочь Елена, зять Эдуард.***

*XXX*

*Сердечно поздравляем с юбилеем со дня рождения*
***Навицкую***
***Нину Ивановну***
*Желаем счастья Вам большого,*
*Благополучия земного.*
*Здоровья крепкого вдвойне.*
*Желаем самого простого –*
*Прожить побольше на земле.*
*Пусть Бог ниспошлет Вам уют и покой.*
*И ангелы вечно стоят за спиной.*
*Пусть посланы будут вам мир и тепло,*
*Пусть в радости тихой вам будет светло.*
***Коллектив СШ №1.***

Калектыў ДБУ-37 выказвае глыбокае спачуванне дарожнаму рабочаму ШАПАРАВУ Міхаілу Цімафеевічу і галоўнаму механіку ШАПАРАВУ Віктару Міхайлавічу з выпадку напаткаўшага гора – смерці МАЦІ, БАБУЛІ.

Сем'і Качанавых і Хралянок глыбока смуткуюць з выпадку смерці добрага чалавека
ЛЯЛЁБА
Соф'і Аляксееўны
і выказваюць глыбокае спачуванне родным і блізкім нябожчыцы.

Сям'я Козлова Уладзіміра выказвае глыбокае спачуванне Казаковай Надзеі Васільеўне ў сувязі з напаткаўшым яе вялікім горам -- смерцю маці.


**Рэдактар Мікалай ДЗЯТЛАЎ**

**ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ**

ЗАСНАВАЛЬНІК: КАСЦЮКОВІЦКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 213640, г. Касцюковічы, вул. Ленінская, 43
Індэкс газеты 64045

ТЭЛЕФОНЫ: галоўны рэдактар -- 2-11-33; нам.галоўнага рэдактара, адказны сакратар -- 2-16-94; аддзелы: аграпрамысловы і інфармацыі -- 2-16-34; пісьмаў і масавай работы, бухгалтэрыя --2-23-55.

Цэнтралізаваны выпуск газеты ажыццяўляе адказны выпускаючы А. ШПАКАВА.
Газета выходзіць у сераду і суботу.

Аб'ём газеты -1 друкаваны аркуш
Тыраж 1514 экземпляраў
Друк афсетны
Падпісана ў друк 22. 08. 2000 г. 18.00
Заказ № 65

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннямі рэдакцыі.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Рэгістрацыйны нумар 760 ад 29 сакавіка 1997 года. Газета надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М. Свярдлова, вул. Першамайская, 72.